ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 16 18 красавіка 1996 г.

(2470) Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.



7 красавіка праваслаўныя адзначылі два святы: Вербную нядзелю і Дабравешчанне. Царква адзначае, што супадзенне г[illegible] двух святаў у адзін дзень адбываецца адзін раз у сто гадоў. У Вербную ня[illegible]ю людзі асвячаюць у царкве галінкі вярбы, якія нагадваюць пальмавыя галінкі, з якімі на ўваходзе ў Іерусалім сустракаў народ Ісуса Хрыста за тыдзень да яго цудоўнага ўваскрашэння.

НА ЗДЫМКУ: Вербная нядзеля ля кафедральнага сабора ў Мінску.

Фота Віктара СТАВЕРА.

*САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ ПРЫВІД БЕЛАРУСКАЙ ІДЭІ*

## РЭЭМІГРАЦЫЯ

Акыўны ўдзел грамадска-палітычных дзеячаў, інтэлігенцыі ў барацьбе за вольную і незалежную беларускую дзяржаву паставіў многіх у даволі складанае становішча пасля ўтварэння БССР. Для іх не было сакрэтам, што апошняя ў значнай ступені з'яўлялася тварэннем бальшавіцкай Масквы, пазіцыя якой у пытанні дзяржаўнага суверэнітэту беларускага народа далёка не супадала з тым, як на гэтую справу глядзела адданая нацыянальнай ідэі інтэлігенцыя. Ведала яна, і якую бескампрамісную барацьбу праводзяць бальшавікі ў дачыненні да тых, хто займае процілеглую ім пазіцыю ў тых ці іншых пытаннях нацыянальнай палітыкі. У д[illegible]м жа выпадку размова ішла [illegible]амае важнае і прынцыповае -- дзяржаўны суверэнітэт, ад чаго ў вырашальнай ступені залежалі і лёс сацыялізму ў гэтай краіне, і яе адносіны, як тады любілі заяўляць, з сцяганосцам барацьб[illegible] буржуазіяй ва ўсім свеце -- Савецкай Расіяй. Наяўнасць самых прынцыповых разыходжанняў у пытаннях нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту і паслужыла для многіх падстаўай пакінуць Бацькаўшчыну, каб не стаць аб'ектам ганенняў з боку новых уладаў. Хтосьці з інтэлігенцыі заставаўся па-за яе межамі яшчэ і таму, што не паспеў ці не жадаў вярнуцца з чужыны, куды яго закінулі падзеі першай сусветнай і грамадзянскай войнаў.

Дарэвалюцыйная нацыянальная палітыка бальшавікоў схіліла на іх бок многіх шчырых барацьбітоў за вызваленне сваіх народаў ад расійскага прыгнёту. З перамогай Кастрычніка камуністычнай партыі і надалей трэба было штосьці рабіць, каб масы, паверыўшы ў сур'ёзнасць яе намераў да ўсталявання справядлівых міжнацыянальных адносін, пайшлі за ёю.

(Працяг на 4-й стар.).

*ТАВАРЫСТВУ ДРУЖБЫ — 70 ГАДОЎ*

## АДКРЫЦЬ СВЕТУ БЕЛАРУСЬ



13 красавіка 1926 года газета "Савецкая Беларусь" паведамляла: "7-га бягучага красавіка ў Менску заснавалася "Беларускае таварыства культурнае сувязі з заграніцай". А часопіс "Полымя" таго ж часу ўдакладняў: "Таварыства ставіць мэтай азнаямленне заграніцы з дзяржаўнымі, сацыяльна-эканамічнымі і нацыянальна-культурнымі дасягненнямі Савецкай Беларусі".

Так пачаўся адлік часу ў дзейнасці адной са старэйшых грамадскіх арганізацый нашай краіны.

Ініцыятары стварэння БелТД Якуб Колас, Янка Купала, Цішка Гартны, Міхась Чарот, іншыя вядомыя не толькі ў Беларусі дзеячы навукі і культуры імкнуліся адкрыць свету сваю Бацькаўшчыну, зацікавіць нацыянальнымі традыцыямі, інтэлектуальным і духоўным багаццем беларусаў. Не выпадкова ў склад таварыства ўвайшлі Інстытут беларускай культуры, Першы беларускі дзяржаўны тэатр, Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, аўтарытэтныя пісьменнікі, мастакі, музыканты, навукоўцы.

У першыя ж гады дзейнасці Беларускае таварыства культурнае сувязі запрашае наведаць нашу краіну вядомых дзеячаў сусветнай культуры: індыйскага паэта і філосафа Рабіндраната Тагора, японскага паэта Кудзула-Тава, амерыканскіх кінаакцёраў Мэры Пікфард і Дугласа Фэрбенкса, дэлегацыі Бельгіі, Галандыі, Чэхіі, Фінляндыі.

З Беларуссю, у сваю чаргу, праз літаратурныя творы, праз прадстаўнікоў народнай дыпламатыі знаёмяцца ў Аўстрыі, Германіі, Францыі, Нарвегіі, Японіі, Кітаі.

Адначасова робяцца намаганні прыадкрыць і для беларусаў агромністы пласт сусветнай культуры. Найперш былі ўстаноўлены кантакты з замежнымі культурнымі цэнтрамі -- Венскай нацыянальнай, Нью-Йоркскай публічнымі бібліятэкамі, Парыжскім інстытутам славяназнаўства, Рымскім інстытутам вывучэння Усходняй Еўропы.

Такім чынам быў пакладзены пачатак шматбаковых, доўгатэрміновых, узаемакарысных культурных стасункаў грамадскасці Беларусі і замежных краін.

Год за годам прадстаўнікі розных творчых пакаленняў у складзе таварыства будавалі масты духоўнага судачынення з сусветнай супольнасцю.

Звыш 40 гадоў плённым рупліўцам на ніве беларуска-польскіх культурных стасункаў быў майстра слова, народны паэт Максім Танк. Узначальваючы Таварыства беларуска-польскай дружбы, Яўген Іванавіч увасабляў інтэлектуальную эліту Беларусі і творчасцю, і адказнасцю, і сваёй грамадзянскай пазіцыяй.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ЧОРНАЯ ДАТА

## ЧАРНОБЫЛЬ: ЖЫЦЦЁ, ПРАБЛЕМЫ, ДАПАМОГА

Аварыя на Чарнобыльскай АЭС, якая адбылася дзесяць гадоў назад і стала, бадай, самай буйной экалагічнай катастрофай у свеце, нанесла непапраўны матэрыяльны і маральны ўрон народам Беларусі, Украіны і Расійскай Федэрацыі. Яны ў поўнай меры адчулі на сабе ўвесь цяжар яе вынікаў. Мільёны людзей у Беларусі расплачваюцца за гэта сваім здароўем і па сённяшні дзень.

На Захадзе чарнобыльскую катастрофу нехта назваў "трэцяй сусветнай вайной". Асноўны яе цяжар лёг на плечы беларускага народа. 70 працэнтаў тэрыторыі Беларусі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС у той ці іншай ступені пацярпелі ад радыяцыйнага ўдару. А нанесены ўрон ацэньваецца ў 32 гадавыя бюджэты дааварыйнага часу.

(Заканчэнне на 3-й стар.).



У калгасе "Кастрычнік" Нараўлянскага раёна пасля чарнобыльскай аварыі з пяцісот працуючых засталося каля сотні чалавек, многім з іх цяпер ужо за шэсцьдзесят. Варвара ЮРЧАНКА (на здымку) -- адна з іх. Яны моляцца за яшчэ ацалеўшых аднавяскоўцаў, балазе, у іх вёсцы Вярбовічы па-ранейшаму дзейнічае царква Св.Праскоўі.

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

# ШТО ДУМАЮЦЬ АБ ССР:

**Павел КРАЛ, прадстаўнік ААН у Рэспубліцы Беларусь:**

-- Любое падобнае пагадненне аб больш цесным супрацоўніцтве паміж дзвюма суверэннымі дзяржавамі павінна разглядацца станоўча. Абедзве дзяржавы: і Беларусь, і Расія, якія знаходзіліся ля вытокаў утварэння Арганізацыі Аб'яднаных Нацый пяцьдзесят гадоў таму, на працягу доўгіх гадоў мелі цесныя сацыяльна-эканамічныя сувязі. У апошнія пяць гадоў у абедзвюх краінах адбываюцца карэнныя пераўтварэнні на шляху да дэмакратызацыі грамадстваў і трансфармацыі эканамічных структур у напрамку свабоднага рынку. Як вядома, дагэтуль беларуская эканоміка знаходзілася ў вельмі цяжкім становішчы з-за таго, што многія сыравінныя рэсурсы, а таксама традыцыйныя рынкі збыту прадукцыі знаходзіліся ў Расіі і іншых дзяржавах былога Савецкага Союза. У сувязі з гэтым, калі пагадненне дасць магчымасць Беларусі пераадолець яе цяперашняе складанае эканамічнае становішча, рухацца хутчэй па шляху рэформаў, яго можна лічыць пазітыўным.

Бадай, адзіную заклапочанасць у мяне выклікае той факт, што новы дагавор можа разглядацца некаторымі краінамі-донарамі даволі негатыўна, і гэта можа адбіцца на нашых уласных праграмах, якія ў многім залежаць ад іх падтрымкі. Як вядома, некаторыя дзяржавы настроены вельмі адмоўна ў сувязі з марудным працэсам рэформаў, што праводзяцца ў Беларусі. Яны могуць разглядаць гэта пагадненне як спробу з боку Беларусі пазбегнуць прыняцця цяжкіх рашэнняў, якія датычаць такіх пытанняў, як рэструктурызацыя эканамічнага сектара, прыватызацыя, рыначныя рэформы, інвестыцыі і шэрага іншых.

Тым не менш, я спадзяюся, што гэта пагадненне дапаможа Беларусі пераадолець цяжкасці няпростага пераходнага перыяду, а мы ў сваю чаргу гатовы аказаць любую магчымую дапамогу ў гэтым.

**Кенэт Спенсэр ЯЛОВІЦ, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ЗША ў Беларусі:**

Злучаныя Штаты ўсведамляюць важнасць дружалюбных адносінаў і эканамічнага супрацоўніцтва паміж усімі краінамі рэгіёна. У нас не было магчымасці азнаёміцца з тэкстам дагавора, аднак мы адзначаем запэўніванні абодвух бакоў у тым, што ён заключаецца суверэннымі дзяржавамі і не робіць замах на іх незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць.

Мы разумеем, што Беларусь і Расія імкнуц[illegible]а ўмацавання супрацоўніцтва і двухбаковых праграм у эканамічнай, навуковай, тэхналагічнай і іншых сферах. У той жа час ЗША неаднаразова заклікалі абедзве краіны пазбягаць стварэння бар'ераў, якія б перашкаджалі інтэграцыі гэтых краін і іх эканомік у сусветнае супольніцтва па меры ўмацавання ўзаемны[illegible]намічных сувязей.

**Уладзімір ЖАЛІБА, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Украіны ў Беларусі:**

Ацэньваючы падпісанне дагавора паміж Расіяй і Беларуссю аб стварэнні Супольніцтва, Украіна зыходзіць з таго, што суверэнным правам кожнага народа з'яўляецца выбранне той або іншай формы свайго дзяржаўнага быцця, якая адпавядала б яго гістарычным, нацыянальным і культурным традыцыям. Гэта датычыць і ўваходжання ў саюз з той ці іншай дзяржавай.

Прынцыпова выступаючы супраць спроб адрадзіць у якой-небудзь форме былы Савецкі Саюз, Украіна будзе развіваць свае адносіны з Беларуссю і Расіяй на агульнапрызнаных міжнародных прававых прынцыпах. Што датычыць непасрэдна Беларусі, то, улічваючы агульнасць гістарычнага лёсу, стагоддзямі існуючыя эканамічныя, гуманітарныя і чыста чалавечыя сувязі, украінская дзяржава бачыць сваю задачу ў тым, каб напоўніць іх новым зместам.

**Клод ЖАЛІФ, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі ў Беларусі:**

Я не маю права каменціраваць рашэнні кіраўнікоў іншых дзяржаў. Тым не менш магу толькі падтрымаць пункт гледжання, выказаны раней Міністэрствам замежных спраў Францыі. Наша краіна ніякім чынам не мае намеру перашкаджаць стварэнню новых фарміраванняў на тэрыторыі Еўрапейскага кантынента. І калі Беларусь і Расія пажадалі стварыць Супольніцтва -- значыць яны зацікаўлены ў яго існаванні.

*ДАГАВОР АБ СУПОЛЬНІЦТВЕ*

## ФРАКЦЫІ АДОБРЫЛІ

**Падпісаны 2 красавіка ў Маскве Прэзідэнтамі Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкам і Расійскай Федэрацыі Б.Ельцыным Дагавор аб утварэнні Супольніцтва вывучаецца ў пастаянных парламенцкіх камісіях і дэпутацкіх фракцыях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Як паведаміла прэс-служба парламента, пасяджэнні трох асноўных фракцый -- Партыі камуністаў Беларусі, "Згода" і аграрыяў, -- праведзеныя з 6 па 9 красавіка, былі прысвечаны абмеркаванню гэтага дакумента. Дэпутаты адобрылі падпісанне Дагавора аб утварэнні Супольніцтва, падтрымалі дзеянні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі, накіраваныя на паглыбленне ўсебаковай інтэграцыі паміж Беларуссю і Расіяй. Азнаёміўшыся з тэкстам гэтага выключна важнага ў жыцці двух брацкіх народаў дакумента, парламентарыі выказаліся за неабходнасць разгляду Дагавора ў бліжэйшы час на сесіі Вярхоўнага Савета і яго ратыфікацыю.**

*АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА*



**8--9 красавіка ў Рэспубліцы Аўстрыя пабывала дзяржаўная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам, якая прымала ўдзел у рабоце міжнароднай канферэнцыі "Дзесяцігоддзе пасля Чарнобыля". А.Лукашэнка выступіў на канферэнцыі з заклікам да палітыкаў, вучоных, грамадскіх дзеячаў розных краін, выкарыстоўваючы трагічны вопыт Чарнобыля, не дапусціць яго паўтарэння. Прэзідэнт Беларусі таксама сустрэўся з федэральным канцлерам Аўстрыі Францам Враніцкім, генеральным дырэктарам МАГАТЭ Х.Бліксам, кіраўнікамі буйных аўстрыйскіх фірм.**

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра ЛУКАШЭНКІ з федэральным канцлерам Рэспублікі Аўстрыя Ф.ВРАНІЦКІМ.**

*ПАПЯРЭДЖАННЕ*

## НЕ ВЫКЛЮЧАНА

**"Я дапускаю магчымасць спынення вывад[illegible]эрнай зброі з тэрыторыі Беларусі ў выпадк[illegible], калі Польшча, Венгрыя і Чэхія ўступяць у НАТО і размесцяць у сябе ядзерную зброю". Пра гэта заявіў на брыфінгу ў МЗС першы намеснік міністра замежных справў Беларусі Валерый Цапкала. Праўда, паводле яго слоў, "гэта, вядома, будзе пра[illegible]там перагавораў з расійскім бокам".**

**"Нас здзіўляе, -- сказаў В.Цапкала, -- што некаторыя краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы выказалі гатоўнасць размясціць на сваёй тэрыторыі ядзерную зброю. Спачатку мы гэта ўвогуле ўспрынялі як правакацыю, але цяпер такая гатоўнасць гэтых дзяржаў у нас выклікае проста непаразуменне".**

*РЭХА ЧАРНОБЫЛЯ*



**Напярэдадні дзесятай гадавіны чарнобыльскай катастрофы Савет Міжпарламенцкай асамблеі дзяржаў-удзельніц Садружнасці незалежных дзяржаў правёў рабочую сустрэчу парламентарыяў, вучоных і экспертаў краін Садружнасці ў раёнах, якія найбольш падвергліся радыеактыўнаму забруджванню.**

**Маршрут міжпарламенцкай групы, у склад якой уваходзілі парламентарыі Расіі, Беларусі, Украіны, Казахстана, Малдовы і Таджыкістана, пралягаў праз раёны трох дзяржаў -- Расіі, Украіны, Беларусі, якія пацярпелі ў выніку аварыі на ЧАЭС.**

**НА ЗДЫМКУ: С.ШАРЭЦКІ, Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі, ад імя Міжпарламенцкай асамблеі перадае гуманітарны груз (медыкаменты) дзіцячай бальніцы ў г.Клінцы.**

*КУРС ДОЛАРА*

## ДА ЗАБАРОНЕНАЙ МЯЖЫ

**Пратрымаўшыся напярэдадні выхадных усяго два дні на адной адзнацы, 9 красавіка зноў стаў прыбаўляць у "вазе" амерыканскі долар. Ён зноў "патаўсцеў" адразу на дзвесце пунктаў і к канцу таргоў на Міжбанкаўскай валютнай біржы ўжо ацэньваўся ў 11 900 беларускіх рублёў. Хаця ў аўторак попыт на яго крыху ўпаў, але амаль у два з паловай разы ўсё ж перавысіў прапанову. Усяго ж было скуплена амаль дзевяць мільёнаў "зялёных".**

**Як стала вядома карэспандэнту БелТА, цікавасць да "цвёрдай" валюты ў банкіраў вялікая. У асобныя дні заяўкі на яе пакупку дасягаюць амаль 15 мільёнаў. Па-ранейшаму самая вялікая колькасць прадстаўнікоў фінансавых устаноў удзельнічае і ў саміх здзелках. Да таго ж нагадаем, што Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сваім указам устанавіў на першае паўгоддзе верхнюю планку для долара 13 100 "зайчыкаў". Так што запас яшчэ ёсць. Як хутка курс долара дасягне забароненай рысы, пакажа час.**

*НАДВОР'Е*

## ПТУШАК ШКАДА

**Зацяжныя халады і мноства снегу могуць рэзка зменшыць папуляцыю пералётных птушак у Беларусі. Пра гэта паведаміў начальнік аддзела аховы жывёльнага свету Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Алег Сідарэнка.**

**Паводле яго слоў, калі веснавое надвор'е не ўстановіцца на тэрыторыі рэспублікі ў бліжэйшыя два тыдні, то буслы, жоравы і іншыя птушкі, якія прыляцелі да нас, пачнуць гінуць. Цяпер жа сямействы птушак востра адчуваюць голад. Аднак, сказаў ён, мерапрыемствы, накіраваныя на ачыстку вадаёмаў ад лёду ў сувязі з маючым адбыцца крыгаходам, могуць гэту сітуацыю змяніць да лепшага.**

*СУПРАЦОЎНІЦТВА ВАЕННЫХ*



**У рамках пагаднення паміж Міністэрствамі абароны ЗША і Рэспублікі Беларусь ва Уруччы адкрыта лабараторыя дыстанцыйнага зандзіравання і геаграфічнага збору інфармацыі. Гэта адзін з чатырох кампанентаў, з дапамогай якіх можна вызначыць зоны таксічных і небяспечных заражэнняў на былых стратэгічных ваенных базах. У выніку ў Міністэрства абароны Беларусі з'явіцца магчымасць распрацаваць найменш дарагія меры экалагічнага ўзнаўлення мясцовасці, дзе размяшчаліся ваенныя базы.**

**У адкрыцці лабараторыі прынялі ўдзел пасол ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Кенэт Яловіц, першы намеснік начальніка Галоўнага штаба генерал-маёр Валерый Хацкевіч, начальнік Нацыянальнага агенцтва Рэспублікі Беларусь па кантролю і інспекцыях пры Міністэрстве абароны генерал-маёр Яўген Нікулін.**

**НА ЗДЫМКУ: лабараторыю адкрывае пасол ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Кенэт ЯЛОВІЦ.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

БЕЛАРУСКІ фонд Сораса аказаў неацэнную паслугу нашым музыкантам, выдзеліўшы ліцэю пры Беларускай акадэміі музыкі грант у памеры 21 тысячы амерыканскіх долараў на набыццё музычных інструментаў.

ЗА СТУДЗЕНЬ -- САКАВІК гэтага года на беларускай мяжы затрымана каля 600 парушальнікаў граніцы. Кожны трэці з іх -- з краін афра-азіяцкага рэгіёна.

АЛЕНА МАЗАНІК памерла на 83-м годзе жыцця пасля цяжкай і працяглай хваробы. Герой Савецкага Саюза А.Мазанік -- слынная ўдзельніца партызанскага руху ў Беларусі, якая прывяла ў выкананне прыгавор кату беларускага народа, генеральнаму камісару Беларусі Вільгельму Кубэ. 22 верасня 1943 года ён быў знішчаны магнітнай мінай, якую падклала А.Мазанік.

ГРЭЦЫЯ стала пятнаццатай краінай, з кім беларускія транспартнікі парафіравалі пагадненне аб міжнародных аўтамабільных зносінах. З 16 дзяржавамі аналагічныя пагадненні ўжо падпісаны. Грэцыя мае падпісаць пагадненне ў жніўні.

ДЗЯРЖАЎНЫ камітэт Рэспублікі Беларусь па друку звярнуўся ў рэспубліканскую пракуратуру з просьбай даць ацэнку дзеянням газеты "Выбар" (Віцебск) і Славаміра Адамовіча, вядомага сваімі крайне правымі поглядамі. Прычына -- публікацыя ў адным з апошніх нумароў "русских стишат" С.Адамовіча -- "Убей президента", "Банда у власти" і іншых.





720 гадоў на ўзгорках ля ракі Лясная стаяць горад Камянец і яго вежа. У любы час года яны прыцягваць мноства падарожнікаў і турыстаў, праз гэтыя мясціны праходзяць дарогі ў славутую Белавежскую пушчу.

НА ЗДЫМКАХ: з любой кропкі горада відаць вежа -- старадаўняя абарончая будова; ля помніка заснавальнікам горада; веснавы настрой у старшакласніц Камянецкай сярэдняй школы N 2 Наташы СЯЛЮК і Тоні КІТАЕЎСКАЙ.

Фота Рамана КАБЯКА.



# ЧАРНОБЫЛЬ: ЖЫЦЦЁ, ПРАБЛЕМЫ, ДАПАМОГА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

У 1989 годзе Вярхоўны Савет Беларусі прыняў праграму пераадолення вынікаў чарнобыльскай аварыі. Нягледзячы на тое, што прайшло ўжо дзесяць гадоў, пераадоленне вынікаў чарнобыльскай катастрофы па-ранейшаму з'яўляецца асноўнай праблемай для нашай дзяржавы. З-за адсутнасці міжнародных прававых норм па пакрыццю нанесенага ўрону мы, пачынаючы з 1992 года, засталіся сам-насам з гэтай страшнай бядой.

Нядаўна калегіі Кабінета Міністраў рэспублікі быў прапанаваны новы праект дзяржаўнай праграмы на перыяд да 2000 года.

Галоўнай задачай за прайшоўшы з дня катастрофы час было адсяленне жыхароў з раёнаў найбольшага радыеактыўнага забруджвання на чыстыя тэрыторыі. З 396 населеных пунктаў пераселена амаль 130 тысяч чалавек, у тым ліку 84,3 тысячы -- з зон першачарговага і наступнага адсялення.

Нягледзячы на гэта, і сёння на тэрыторыях з узроўнем забруджвання цэзіем-137 больш 1 Кі/кв. км. застаецца пражываць 1,8 мільёна чалавек, у тым ліку 312,6 тысячы чалавек у раёнах павышанай рызыкі.

У сувязі з гэтым новая праграма ставіць задачу ў бліжэйшыя гады закончыць перасяленне жыхароў населеных пунктаў з забруджаных раёнаў. Такая работа будзе праводзіцца на аснове дэталёвай інфармацыі па кожнаму населенаму пункту і пад канкрэтную сям'ю ў тых мясцінах, дзе будзе гарантавана працаўладкаванне. Там, дзе дазваляюць умовы, будзе і ў далейшым скарыстоўвацца прынцып добраахвотнасці адсялення. Прадугледжана таксама забяспечыць жыллём асоб, якія перанеслі прамянёвую хваробу і прызнаны інвалідамі ў выніку чарнобыльскай аварыі.

Асноўнымі задачамі мінулых гадоў было захаваць здароўе пацярпеўшых, а таксама развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы сістэмы аховы здароўя забруджаных радыенуклідамі рэгіёнаў. Зрабіць удалося нямала. Ва ўсіх раёнах, якія пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС, былі адкрыты кабінеты ультрагукавой дыягностыкі, у 13 з іх -- анкалагічныя кабінеты. У абласных цэнтрах арганізаваны імуналагічныя лабараторыі. Пабудаваны 295 аб'ектаў аховы здароўя на 4 858 ложкаў і 22 587 наведванняў у змену. Створана сетка спецыялізаваных устаноў: НДІ радыяцыйнай медыцыны з клінікай у Аксакаўшчыне і філіяламі ў Гомелі, Магілёве, Віцебску; Рэспубліканскі спецыялізаваны дыспансер і Рэспубліканскі спецыялізаваны цэнтр анкапаталогіі шчытападобнай залозы ў Мінску, аддзяленне па перасадцы касцявога мозга на базе 9-й мінскай гарадской бальніцы. Працягваецца будаўніцтва лячэбнага корпуса НДІ радыяцыйнай медыцыны ў Аксакаўшчыне, спецдыспансера ў Гомелі, Рэспубліканскага дзіцячага анкалагічнага цэнтра ў Бараўлянах. У адпаведнасці з законам "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на ЧАЭС" права на штогадовае бясплатнае аздараўленне мае 614,8 тысячы чалавек, у тым ліку 526,2 тысячы дзяцей і падлеткаў. Але негатыўныя тэндэнцыі ў стане здароўя пацярпеўшага насельніцтва, і ў першую чаргу дзяцей, не могуць не турбаваць. У дзяцей назіраецца павелічэнне колькасці анемій, хранічных захворванняў ЛОР-органаў і органаў дыхання. Асаблівую трывогу выклікае рост захворванняў на рак шчытападобнай залозы. З 1986 па 1.08 1995 года зарэгістравана 340 выпадкаў раку шчытападобнай залозы ў дзяцей. У год мы маем іх 60--80, у той час як за 9 дааварыйных гадоў іх было толькі 2.

Адзначаецца рост захворванняў дарослых на злаякасныя новаўтварэнні (з 292,9 на 100 тысяч жыхароў у 1993 годзе да 371,8 -- у 1994 годзе), у тым ліку на вострыя лейкозы (з 1,7 да 4,4 на 100 тысяч жыхароў), асабліва сярод ліквідатараў. У 2 разы ўзраслі захворванні на востры лейкоз і туберкулёз у дзяцей, туберкулёз у дарослых -- у 1,8.

Назіраецца рост колькасці інвалідаў, захворванні якіх абумоўлены Чарнобылем. За апошнія гады іх колькасць павялічваецца прыкладна на 300 чалавек у год. Якія будуць тэндэнцыі ў далейшым -- сказаць адназначна нельга, бо даных па хранічнаму апраменьванню насельніцтва на працягу доўгага перыяду няма.

Некаторы час [illegible]ля аварыі ўсе былі апантаны ідэяй [illegible]стых сажалак". Потым яна змянілася апатыяй і нявер'ем у тое, што Беларусь можа выпрацоўваць экалагічна чыстыя прадукты.

Сельскай гаспадарцы нанесены вялікі ўрон: радыеакт[illegible]чаму забруджванню былі падвергну[illegible],8 мільёна гектараў сельскагаспадар[illegible]х угоддзяў (каля 22 працэнтаў ад усёй колькасці), 264 тысячы гектараў выключаны з гаспадарчага абароту. Нягледзячы на гэта, комплекс мерапрыемстваў у сельскай гаспадарцы даў магчымасць стабілізаваць вытворчасць прадукцыі з допушчальным утрыманнем радыенуклідаў. Сёння кантроль за чысцінёй прадуктаў выконвае 151 радыялагічная лабараторыя санэпідслужбы і больш як 2 тысячы лабараторый і пастоў. Створана сістэма радыяцыйна-экалагічнага маніторынга, каб назіраць за станам радыеактыўнага забруджвання прыроднага асяроддзя. Праведзена падворнае даследаванне населеных пунктаў, сельгасугоддзяў і лесу.

Асноўнай задачай застаецца вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі ў раёнах радыеактыўнага забруджвання, якая б адпавядала патрабаванням допушчальных узроўняў. Ахоўныя мерапрыемствы ў грамадскім сектары ўключаюць унясенне дадатковых доз калійных і фосфарных угнаенняў, стварэнне акультураных паш, скарыстанне сербентаў, якія аб'ядноўваюць цэзій, сербентаў у жывёлагадоўлі, забеспячэнне радыяцыйнай абароны працуючых.

Навуковыя кадры не змаглі своечасова прапанаваць канкрэтныя меры пераадолення вынікаў радыеактыўнага забруджвання.

Планаванне і рэалізацыя мерапрыемстваў па пераадоленню вынікаў катастрофы сапраўды патрабуюць глыбокага аналізу радыяцыйна-экалагічнай і медыка-біялагічнай сітуацыі, распрацоўкі навукова абгрунтаваных прагнозаў. На момант катастрофы ў рэспубліцы практычна не было навуковых калектываў, якія спецыялізаваліся б у даным напрамку. Падобныя даследаванні былі сканцэнтраваны пераважна ў Расіі. Доступ да іх вынікаў па вядомых прычынах быў абмежаваны. Але адразу пасля катастрофы ў Акадэміі навук былі створаны Інстытуты радыебіялогіі і радыеэкалагічных праблем. Створаны Інстытут сельгасрадыялогіі ў Гомелі, Інстытут радыяцыйнай медыцыны з філіяламі ў Гомелі, Магілёве і Віцебску. Адкрыты лабараторыі адпаведнага профілю ў шэрагу існуючых акадэмічных і галіновых навуковых устаноў.

Арганізаваны шырокамаштабныя даследаванні па праблемах уздзеяння радыяцыі на чалавека, жывёльны і раслінны свет, кампаненты прыроднага асяроддзя. Распрацавана і выпускаецца радыеметрычная і дазіметрычная апаратура. Усе атрыманыя навуковыя вынікі пакладзены ў аснову прымаемых урадам рэспублікі рашэнняў, а таксама шматлікіх рэкамендацый для розных галін і ведамстваў. Сфармулявана канцэпцыя ахоўных мер, на аснове якіх прыняты законы Вярхоўным Саветам.

Не могуць быць пакінуты без увагі праблемы рэабілітацыі тэрыторый і рэалізацыі комплексу мерапрыемстваў у зонах адчужэння і адсялення. На даных тэрыторыях неабходна забеспячэнне асобага прававога рэжыму, правядзенне проціпажарных і іншых мер, накіраваных на прадухіленне пераносу радыенуклідаў на іншыя тэрыторыі ў зоне адчужэння, дзе арганізаваны дзяржаўны радыяцыйна-экалагічны запаведнік.

"Балючым" з'яўляецца [illegible]нне з фінансаваннем. Выдзяленне сродкаў на пераадоленне вынікаў чарнобыльскай катастрофы ў апошнія гады пастаянна паніжалася. І тэмпы гэтага паніжэння неадэкватныя зніжэнню вастрыні [illegible]блемы: калі ў 1991 годзе выдаткі на [illegible]зацыю заданняў чарнобыльскай праграмы складалі 16,8 працэнта дзяржаўнага бюджэту, то ў 1992-м -- 12,6, у 1993-м -- 10,2, у 1994 годзе -- 9,7 працэнта.

Па капітальных укладаннях Дзяржаграпрома прафінансавана ў мінулай пяцігодцы толькі на 43,5 працэнта. На пачатак лютага 1996 года крэдыторская запазычанасць за выкананыя работы складае 83 мільярды рублёў. Зыходзячы з эканамічных рэалій, план фінансавання на 1996 год па капітальных укладаннях і мэтавых праграмах не перавышае плануемых аб'ёмаў выканання плана 1995 года. Затраты на наступныя гады прадугледжваюць скарачэнне фінансавання. На 1996—2000 гады Дзяржаграпромам прадугледжваецца 31 трыльён 301 мільярд рублёў, у тым ліку на 1996 год 6 трыльёнаў 787 мільярдаў рублёў.

Як вядома, ААН даволі актыўна займаецца чарнобыльскай праблематыкай, падтрымлівае распрацоўку і ажыццяўленне міжнародных праектаў, накіраваных на змякчэнне вынікаў ядзернай катастрофы. Напрыклад, такая яе структура, як Арганізацыя ААН па прамысловаму развіццю (ЮНІДО), паставіла сабе мэтай ажыццявіць праект пад назвай: "Агляд стану прамысловасці ў раёнах Рэспублікі Беларусь, якія пацярпелі ў выніку чарнобыльскай катастрофы".

У лістападзе-снежні 1993 года эксперты ЮНІДО кваліфікавана, з веданнем справы правялі абследаванне прадпрыемстваў у забруджанай зоне Гомельскай вобласці. Немалую дапамогу ў гэтай справе аказалі ім беларускія спецыялісты. Вынікі абследавання, парады і рэкамендацыі міжнароднай камісіі выкладзены ў адпаведнай справаздачы. Выкананне ідэй праекта, рэалізацыя ў поўным аб'ёме прапанаваных рэкамендацый паспрыяе ажыўленню вытворчасці ў забруджаных раёнах, эканамічнай рэабілітацыі тэрыторый, якія пацярпелі ад радыяцыі, паслужыць стварэнню рабочых месцаў і паляпшэнню ўмоў жыцця чарнобыльцаў.

Міжнароднае супрацоўніцтва па праблемах вынікаў катастрофы на ЧАЭС уключае выкананне розных сумесных праектаў у галіне медыцыны, навукі з арганізацыямі сістэмы ААН (ВОЗ, МАГАТЭ, ЮНЕСКА) праграмы тэхнічнай дапамогі розных краін, гуманітарную дапамогу. Вынікам намаганняў кіраўніцтва Беларусі, Расіі і Украіны па праблеме Чарнобыля стала прынятая спецыяльная рэзалюцыя Генеральнай Асамблеі ААН. Работа па чарнобыльскай тэме знаходзіцца ў цэнтры ўвагі пастаяннага прадстаўніцтва ААН і дыпламатычных прадстаўнікоў іншых краін у Беларусі. Асабліва актыўна і зацікаўлена працуюць пасольствы РФ, КНР, Італіі, Германіі,Японіі, ЗША, Вялікабрытаніі. Для падтрымкі ахвяр чарнобыльскай аварыі паступае дапамога замежных дзяржаў, міжнародных арганізацый і прыватных асоб. Паводле папярэдніх даных, аб'ём гэтай дапамогі ўжо склаў 1 мільярд долараў. У сувязі з гэтым плануецца заснаваць памятны медаль і ўзнагародзіць паслоў і прадстаўнікоў шматлікіх грамадскіх арганізацый, якія адгукнуліся на нашу бяду і дапамаглі нам. Беларускі народ удзячны краінам, якія дапамагаюць нам спраўляцца з гэтай бядой. І цяпер, праз дзесяць гадоў пасля аварыі на ЧАЭС, Беларусь па-ранейшаму мае патрэбу ў сучасных тэхналогіях мінімізацыі экалагічных, сацыяльных і эканамічных вынікаў самай буйной аварыі стагоддзя і іх фінансавым забеспячэнні.

Для нас вельмі важным з'яўляецца тое, што чарнобыльская праблематыка знаходзіцца ў парадку дня Генеральнай Асамблеі ААН. Ужо некаторыя краіны прапаноўвалі перавесці чарнобыльскую тэму на рэгіянальны ўзровень і абмяркоўваць яе, вырашаць яе намаганнямі дзяржаў Еўропы. Для нас такі падыход не зусім прымальны. Бо тады Беларусь аўтаматычна страчвае істотную гуманітарную дапамогу такой багатай краіны, як Японія, а таксама Паўднёвай Карэі, Кітая і іншых. Але дзякуючы намаганням нашых дыпламатаў, асабліва прадстаўніцтва Беларусі ў ААН, удалося захаваць чарнобыльскую праблему на сусветным узроўні.

У лістападзе 1995 года ўдзельнікі чарговага пасяджэння 50-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН аднагалосна адобрылі прапанаваны Беларуссю, Расіяй, Украінай і Японіяй праект рэзалюцыі "Аб узмацненні міжнароднага супрацоўніцтва ў справе вывучэння, змякчэння і мінімізацыі вынікаў катастрофы на ЧАЭС". Мэта гэтага -- прыцягнуць увагу міжнароднага супольніцтва да праблем, якія ўзніклі ў выніку найбуйнейшай тэхнагенна-экалагічнай катастрофы і ў той жа час падтрымаць намаганні Украіны, Беларусі і Расіі ў пераадоленні яе вынікаў. Такім чынам, сусветнае супольніцтва зноў выказала палітычную падтрымку народам, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.

Па прапанове дэлегацыі Украіны 50-я сесія Генеральнай Асамблеі прыняла рашэнне аб аб'яўленні 26 красавіка 1996 года Міжнародным днём памяці Чарнобыля.

Генеральная Асамблея ААН даручыла намесніку генеральнага сакратара па гуманітарных пытаннях і каардынатару ААН па міжнароднаму супрацоўніцтву ў сувязі з чарнобыльскай катастрофай Пятэру Хансену распрацаваць стратэгію ўзаемадзеяння з Сусветным банкам, Глабальным экалагічным фондам, іншымі фінансавымі структурамі для атрымання сродкаў на рэалізацыю чарнобыльскіх праграм і праектаў. ААН зацвердзіла і падрабязны каляндар мерапрыемстваў, звязаных з дзесяцігоддзем чарнобыльскай катастрофы.

На парадак дня канферэнцыі Міжнароднага парламенцкага саюза, якая адбудзецца ў красавіку 1996 года ў Стамбуле, унесена пытанне аб Чарнобылі: для пераадолення вынікаў чарнобыльскай катастрофы неабходны пошук сумесных дзеянняў усяго сусветнага супольніцтва.

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

# АДКРЫЦЬ СВЕТУ БЕЛАРУСЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі ганарыцца тым, што ў розныя гады яго прадстаўлялі такія постаці нацыянальнай культуры, як Рыгор Шырма, Генадзь Цітовіч, Васіль Купрэвіч, Ларыса Александроўская, Анатоль Анікейчык, Іван Чыгрынаў, Барыс Сачанка.

Год за годам БелТД набывала сяброў у розных краінах свету, перажываючы ўзлёты і падзенні ў духоўных высілках па замацаванню беларускага культурнага фактару, імкнучыся аб'яднаць вакол сябе найперш самых таленавітых і духоўна адметных прадстаўнікоў нацыянальнай культуры.

Сціплая спроба асэнсаваць пражытыя сем дзесяцігоддзяў дае падставы сцвярджаць, што нашымі папярэднікамі напрацавана не так ужо і мала. Сёння мы маем сяброў у 70-ці краінах свету.

Надзейнымі партнёрамі сталі таварыствы дружбы з Беларуссю ў Балгарыі і Польшчы, Чэхіі і Славакіі, Германіі і Францыі, Італіі і Іспаніі, ЗША і Японіі, Кітаі і Індыі, Украіне і Расіі, Літве і Латвіі. Дні культуры Беларусі прайшлі за гэтыя дзесяцігоддзі не толькі ў еўрапейскіх краінах, Кітаі і Японіі, але і ў такіх экзатычных, як Кувейт, Мальдыўскія астравы, Ісландыя, востраў Мадагаскар. У гастрольныя паездкі рэкамендаваліся не толькі прафесійныя нацыянальныя калектывы, такія, як народны хор імя Цітовіча, "Купалінка", "Харошкі", Дзяржаўны ансамбль танца, "Белыя росы" але і самадзейныя. Сотні выстаў кніг і карцін, фотаздымкаў, вырабаў народных майстроў і прамысловых прадпрыемстваў Беларусі ўбачыла грамадскасць розных краін свету за гэтыя гады.

Нельга не зазначыць і тое, што работа таварыства карысталася падтрымкай дзяржавы, якая заўсёды бачыла карысць ад супольных намаганняў па папулярызацыі беларускай культуры за яе межамі і, што яшчэ прыемней, попытам грамадскасці, найперш творчай інтэлігенцыі.

Працягваючы традыцыі, закладзеныя заснавальнікамі, у складзе праўлення і 29 нацыянальных таварыстваў працуюць сёння на грамадскіх пачатках вядомыя беларускія паэты, пісьменнікі, мастакі, навукоўцы, кампазітары, прадстаўнікі прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, настаўнікі і студэнты ВНУ. Напрыклад, таварыства "Беларусь--Германія" ўзначальвае народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, таварыства "Беларусь--Літва" -- вядомы беларускі драматург Аляксей Дудараў, а "Беларусь--Балгарыя" -- навуковец, прафесар АН РБ Генадзь Цыхун. У прэзідыуме БелТД актыўна працуюць паэт Анатоль Вярцінскі, народны мастак, рэктар Акадэміі мастацтваў Васіль Шаранговіч, кіраўнік Міністэрства знешнеэканамічных сувязей Міхаіл Марыніч, навуковец і пісьменнік Вячаслаў Рагойша. Своеасаблівай адметнасцю БелТД з'яўляецца і тое, што ўсіх актывістаў, а іх каля 4 тысяч па ўсёй рэспубліцы, яднае жаданне адраджаць нацыянальныя духоўныя каштоўнасці і далучаць іх да сусветных.

Асобае месца ў дзейнасці таварыства належыць дружбе, заснаванай на агульнасці этнічнага, гістарычнага, духоўнага лёсу. Умацаванню такой дружбы з рускім, украінскім, польскім, літоўскім, латышскім народамі садзейнічаюць асабістыя знаёмствы і сяброўства культурных і грамадскіх дзеячаў. Можа і таму на літаратурна-музычных вечарах, прысвечаных Яну Райнісу, Лесі Украінцы, Сяргею Ясеніну, Крысціёнасу Данялайцісу і іншым дзеячам культуры краін-суседзяў Дом дружбы заўсёды поўніцца людзьмі. Зацікаўлена ставіцца грамадскасць Беларусі і да пазнавальна-азнаямляльных імпрэз таварыстваў "Беларусь--Чэхія", "Беларусь--Польшча". Не апошняе значэнне тут мае, на мой погляд, і асабісты аўтарытэт старшынь таварыстваў -- прафесараў Віктара Гайсёнка, Ірыны Шаблоўскай, Леаніда Лойкі, паэта Сяргея Панізьніка.

Змены ў дзейнасць Беларускага таварыства дружбы ўнесла і чарнобыльская бяда. За дапамогу [illegible]рам радыяцыйнага забр[illegible]жвання мы ўдзячны сваім замежным партнёрам і сябрам. Іх намаганнямі ў Беларусь паступіла медыцынскага абсталяв[illegible]я, медыкаментаў і іншы[illegible]манітарных грузаў агульным коштам амаль на 40 мільёнаў долараў ЗША. Звыш 5 тысяч дзяцей змаглі ўмацаваць сваё здароўе ў італьянскіх, нямецкіх, аўстрыйскіх, французскіх, польскіх сем'ях. З удзячнасцю прымаюць беларусы маральную і матэрыяльную падтрымку і ад сваёй замежнай дыяспары, многія прадстаўнікі якой захавалі любоў да сваёй Бацькаўшчыны, не парывалі сувязі з грамадскім і духоўным жыццём сваіх суайчыннікаў.

Ці ж магло нас не крануць тое, што першыя грашовыя сродкі на Чарнобыльскі рахунак БелТД паступілі не адкуль-небудзь, а з Канады і Аўстраліі, ад беларускай эміграцыі?!

У сваёй знешнекультурнай дзейнасці БелТД актыўна супрацоўнічае з многімі грамадскімі арганізацыямі, але ў першую чаргу з "Радзімай" і "Бацькаўшчынай", якія актыўна кантактуюць з суайчыннікамі за мяжой.

Каб у чытачоў не склалася ўражанне, што ў гэтыя складаны час Беларускаму таварыству працуецца лёгка і беспраблемна, скажу, што гэта далёка не так. Усе цяжкасці і выпрабаванні мы перажываем разам са сваім народам, неад'емнай часткай якога з'яўляемся. Але гаварыць пра гэта ў юбілейным артыкуле не хочацца, тым больш, што БелТД мае многа цікавых перспектыўных праграм са сваімі замежнымі партнёрамі, а значыць мае цікавую і надзейную будучыню.

**Ніна ІВАНОВА,**
**намеснік старшыні прэзідыума БелТД.**

# РЭЭМІГРАЦЫЯ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

І пэўныя крокі рабіліся. Актыўна ўзялася за навядзенне парадку ў сваім нацыянальным доме і Беларусь, што было вельмі прыхільна сустрэта не толькі яе грамадзянамі, але і многімі суродзічамі, што жылі ўдалечыні ад роднай зямлі. У такіх умовах зусім натуральна, што ў кагосьці з іх магло ўзнікнуць жаданне вярнуцца дахаты. Цераз прэсу і дзякуючы асабістым кантактам з прадстаўнікамі Савецкай Беларусі многім нашым эмігрантам было вядома аб прыняцці Прэзідыумам ЦВК БССР ад 11 ліпеня 1923 года рашэння, згодна з якім вызваляліся ад усялякай адказнасці тыя, хто не змагаўся з савецкай уладай са зброяй у руках, не служыў у розных контррэвалюцыйных органах, палітычнай ахранцы. Несумненна, у вялікую заслугу маладой уладзе Савецкай Беларусі можна паставіць яе імкненне ў імя нацыянальнага адзінства народа пайсці на прымірэнне з тымі, хто ў час Кастрычніцкай рэвалюцыі і пасля яе перамогі не толькі не ішоў за бальшавікамі, але нават вёў супраць іх няўзброеную, пасіўную барацьбу.

Надзвычай важна, што ў адпаведнасці з прынятым у ліпені 1923 года рашэннем вызваляліся ад судовай адказнасці тыя, хто ўдзельнічаў у працы такіх антысавецкіх нацыянальных фарміраванняў і арганізацый, як Вялікая беларуская рада, Найвышэйшая рада, урад БНР і інш., таму што тут было занята шмат апантаных адраджэнскай ідэяй людзей, здольных многа зрабіць для яе ўвасаблення ў практыку. Усе яны пільна сачылі за ходам сацыяльна-эканамічных і дзяржаўна-палітычных пераўтварэнняў на радзіме. Прычым, асаблівую ўвагу праяўлялі да таго, што рабілася ў сферы культурнага жыцця, дзе хоць і павольна, але ўсё-такі ішоў у рост нацыянальны зародак.

Вельмі хутка выявілася, што ў Савецкай Беларусі ёсць прыхільнікі сярод такой катэгорыі эмігрантаў. Ды і з боку дзяржаўных улад стаўленне да іх было выключна дэмакратычным, памяркоўным, што адразу пастараліся выкарыстаць некаторыя з асобаў, якія па розных прычынах апынуліся на чужыне. Меліся выпадкі, калі ўжо ў 1922 годзе хтосьці з іх вярталіся на радзіму. тады ж на такое адважыўся і Аркадзь Смоліч, вядомы ў мінулым як адзін з самых актыўных дзеячаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады, а таксама урада БНР. "Без размінкі" ён адразу актыўна бярэцца за працу на карысць новай Айчыны. У другім нумары часопіса "Полымя" за 1923 год выступіў з артыкулам "Краязнаўство і Універсітэт у Савецкай Беларусі", у якім узняў шэраг важных пытанняў аб далучэнні людзей, асабліва моладзі, да азнаямлення з прыродным і духоўным багаццем, гісторыяй роднай зямлі. З гэтай мэтай ён прапаноўваў стварыць пры БДУ самастойны геаграфічны факультэт, які лічыў нават больш патрэбным за матэматычнае аддзяленне, што ўжо мелася тут. "Бо ў беларускіх школах з бядою папалам мог бы выкладаць і матэматык з якога Саратаўскага або Томскага Ун-ту; але географ, не знаёмы з краем, у вышэйшай школе не гадзіцца". А.Смоліч стаяў за ўвядзенне агульнага курса краязнаўства на ўсіх факультэтах універсітэта, бо чалавеку, "у якой-бы галіне ён ні працаваў, ведаць край, у якім ён жыве, -- ня толькі цікава але і карысна і для яго самога, і -- яшчэ больш -- для таго дзела, якое ён робіць". Стараннямі такіх людзей, як А.Смоліч, і быў шырока разгорнуты на Беларусі ад другой паловы 20-х гадоў краязнаўчы рух. Ён садзейнічаў паглыбленню ведаў беларусаў аб сваім краі, станоўча адбіўся на росце іх нацыянальнай самасвядомасці, этнакультурным развіцці народа.

Шмат сілы і энергіі прыклаў А.Смоліч для стварэння і разгортвання працы Інстытута беларускай культуры, правадзейным членам якога ён стаў з 1925 года, а ў наступным годзе заняў пасаду намесніка старшыні гэтай прэстыжнай у рэспубліцы ўстановы. У якасці прадстаўніка ад ЦК КП(б)Б А.Смоліч разам з У.Ігнатоўскім і Бекерам удзельнічаў у працы 2-й Беларускай палітычнай нарады, якая праходзіла 22--25 красавіка 1925 года ў Празе. З боку беларускай эміграцыі на ёй прысутнічалі А.Цвікевіч, П[illegible]рэчэўскі, Б.Тарашкевіч і [illegible] Размова ішла пра ства[illegible]не агульнабеларускага фронту для барацьбы за вызваленне з-пад польскага прыгнёту, аб'яднанне "ўсіх беларусаў у адно цэлае пад [illegible]ным сцягам III [illegible] нацыянала".

[illegible] 1928 годзе выдатнага беларускага вучонага Рускае дзяржаўнае геаграфічнае таварыства выбірае сваім правадзейным членам, а ў 1930 годзе, калі ўжо органы АДПУ пачалі цягаць на допыты ўсіх падазроных за іх удзел у надуманым "Саюзе вызвалення Беларусі", ён узнагароджваецца залатым медалём гэтага таварыства за працы "Размяшчэнне насельніцтва па тэрыторыі Беларусі" і "Сельскагаспадарчыя раёны БССР. 1928--1929". З 1931 года жыццё Аркадзя Смоліча праходзіць ужо па-за межамі роднай Бацькаўшчыны, а ў 1938 годзе і зусім абрываецца па волі савецкай рэпрэсійнай машыны.

У ліку першых вярнуўся ўвосень 1923 года на сталае жыццё ў Мінск добра вядомы беларускі пісьменнік Максім Гарэцкі. Да гэтага ён жыў у Вільні, куды трапіў у пачатку 1919 года разам з супрацоўнікамі рэдакцыі газеты "Звязда". За сувязь з камуністамі даявялося пасядзець у Лукішскай турме, пазбавіцца паводле загаду польскіх уладаў любімай працы выкладчыка ў Беларускай гімназіі ў Вільні. Пасля ўсяго гэтага і выспела думка аб прыездзе на радзіму. Патрэба ў такіх нацыянальна свядомых людзях, як Максім Гарэцкі, была тады вельмі вялікай. На працягу 1923--1931 гадоў ён працаваў на рабфаку ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, затым у Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, Інбелкульце і Беларускай акадэміі навук. Яго практычная дзейнасць на кожным з гэтых участкаў прыносіла вялікую карысць нацыянальнай справе беларускага народа, цалкам і поўнасцю адпавядала патрэбам яго духоўнага адраджэння. Акрамя педагагічнай дзейнасці, ён плённа займаўся даследаваннямі ў галіне беларускай мовы, фальклору, пісаў і выдаваў літаратурныя творы: аповесці "На імперыялістычнай вайне", "Ціхая плынь", зборнік апавяданняў пра мінуўшчыну Беларусі "Досвіткі", кнігу падарожжаў "Сібірскія абразкі", зборнік апавяданняў "Люстрадзён" і інш. Усе яны паспелі выйсці з друку да 1930 года, г. зн. да часу, калі апынуўся іх аўтар у полі зроку рэпрэсіўных савецкіх органаў.

У 1925 годзе пакінула Латвію і прыехала ў родную Беларусь вядомая дзяячка нацыянальнага адраджэння Паўліна Мядзёлка. Пакуль пяць гадзін стаяў цягнік на станцыі Віцебск, яна наведала кнігарні горада і так выказала свае ўражанні: "Я ніколі не спадзявалася пабачыць столькі кніг на нашай роднай мове. Школьныя падручнікі, мастацкая літаратура, палітычная, навуковая... Слёзы радасці засцілалі вочы... Як апантаная, я кідалася ад адной паліцы да другой, не могучы стрымаць свайго захаплення". Неўзабаве пасля вяртання яна ўладкавалася працаваць лектарам беларускай літаратуры на курсах перападрыхтоўкі настаўнікаў у Клімавічах.

Пад уплывам нацыянальнага абуджэння вабіла на Бацькаўшчыну і шмат каго з тых, хто па розных прычынах аказваўся на тэрыторыі іншых рэспублік СССР. Прычым такое абуджэнне назіралася і сярод тых, хто пакінуў родны дом яшчэ ў канцы XIX -- пачатку XX стагоддзяў. Пэўную ролю адыгрываў і сацыяльны фактар.

У ідэю Кастрычніка, перспектыву пазітыўных пераўтварэнняў у сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці стала верыць усё больш людзей. Гэта натуральна вяло да ўмацавання пазіцый новай улады. Не дзіва, што ў такіх умовах урад Беларусі адважыўся запрасіць усіх, хто пакінуў яе пасля заканчэння грамадзянскай вайны, баючыся расправы за супрацьленне палітыцы савецкай улады.

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар.**

(Працяг будзе).

## ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ

### ДА ЮБІЛЕЮ МІЦКЕВІЧА

У 1998 годзе ўсё славянства, увесь свет будуць адзначаць двухсотгоддзе з дня нараджэння генія польскай літаратуры Адама Міцкевіча, чые дзіцячыя і юнацкія гады прайшлі на беларускай зямлі. У сувязі з гэтым у Польшчы створаны Юбілейны камітэт. Яго ўзначальвае вядомы міцкевічазнаўца Януш Адравонж-Пенёнжэк. Ганаровым жа старшынёй камітэта стаў прафесар Чэслаў Згажэльскі. Рыхтуецца да выдання "Міцкевічаўская энцыклапедыя".

Пачалася падрыхтоўка да юбілею і ў Беларусі. У Гродне ўзнік адпаведны камітэт. У яго планах -- аднаўленне Завосся, Туганавіч, Шчорсаў, Бальценнікаў і іншых мясцін, звязаных з імем паэта. У Літаратурным музеі (Мінск) рыхтуецца план экспазіцыі Дома-музея ў Завоссі (Баранавіцкі раён), дзе нарадзіўся аўтар "Пана Тадэвуша".

Супрацоўніца Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны Валянціна Грышкевіч рыхтуе да друку бібліяграфію "Адам Міцкевіч і Беларусь".

**Баляслаў ХАРКЕВІЧ.**

# САР'Я

## (НАРЫС З ГІСТОРЫІ МАЁНТКА І РОДУ ЛАПАЦІНСКІХ)

"САР'Я -- вёска і маёнтак над ракой Сар'янкай у Дрысенскім павеце (Віцебскай губерні. -- **Л.Х.**) (...) Тут знаходзіцца прыгожы палац з вялікім паркам і аранжарэямі, а таксама касцёл у імя Св.Марыі, узведзены ў 1852 годзе Ігнатам Лапацінскім (асвячоны ў 1857 годзе) (...) накшталт касцёла Св.Ганны ў Вільні. Побач з касцёлам, аддзеленыя ад яго дарогай, якая вядзе ў Асвею, знаходзяцца фамільныя могілкі фундатара і яго сям'і. У двары захоўваецца значны архіў, добра ўпарадкаваны, адборная бібліятэка, якая складаецца з некалькіх тысяч твораў, фамільныя партрэты пэндзля Рэгульскага, цікавыя рукапісы і іншыя фамільныя рэліквіі роду Лапацінскіх", -- так пісаў аб Сар'і ў 1889 годзе "Геаграфічны слоўнік Польскага Каралеўства і іншых славянскіх зямель".

Сённяшняя вёска Сар'я, што знаходзіцца ў Верхнядзвінскім раёне Віцебскай вобласці, на жаль, цалкам страціла прыкметы колішняга шляхецкага ўладання. Ужо даўно знішчаны старадаўні панскі дом, расцярушаны па свеце фамільныя зборы Лапацінскіх. У выглядзе толькі асобных фрагментаў захаваўся вялікі прысядзібны парк, а некалькі ацалелых будынкаў гаспадарчага прызначэння ўжо не дазваляюць скласці пэўнага ўяўлення аб колішняй планіроўцы ўсёй сядзібы. Знішчаны старыя надмагільныя камяні, па-святатацку разрабаваны склепы. І толькі былы неагатычны касцёл (а зараз праваслаўная царква) па-ранейшаму строма ўзносіць у неба свае вежы ды шпілі, выклікаючы захапленне ў кожнага, хто яго пабачыў, дзёрскай задумай архітэктара і віртуозным майстэрствам муршчыкаў.

Сар'я належала шляхецкаму роду Лапацінскіх больш за паўтара стагоддзя. Тубыльцы яшчэ памятаюць імя Станіслава Лапацінскага, апошняга ўладара маёнтка, аднак ніхто з іх ужо не зможа распавесці вам ні пра гісторыю вёскі, ні пра гісторыю роду. Выдаленая з вуснай народнай памяці і побытавага ўжытку беларуская гісторыя зараз перамясцілася на жыхарства ў архіўныя ды кніжныя сховішчы. Спроба прыўзняць заслону невядомасці над гісторыяй Сар'і і яе ўладальнікаў прымусіла мяне правесці не адну гадзіну сярод архіўных і кніжных збораў Мінска, Вільні, Варшавы, па драбніцах збіраць раскіданыя па розных крыніцах звесткі, зніто́ўваючы іх у паслядоўны аповяд пра падзеі мінулых часоў. Адчытанне страчаных старонак гісторыі часта прыносіць нечаканыя вынікі і дазваляе іншым разам вылучыць прыкметы моцнага культурнага асяродка ў сціплым і на першы погляд нязначным паселішчы, што сотнямі спатыкаюцца сёння на абшарах Беларусі. Аднак нават калі такога і не адбываецца, аднаўленне гісторыі невялікіх беларускіх вёсак -- з'ява самакаштоўная, вартая пільнай увагі з боку даследчыкаў і чытачоў. Бо палягае яна на абсягу спаўнення святога абавязку памяці перад адышоўшымі продкамі і будучымі нашчадкамі і, зрэшты, вяртае ўсіх нас да саміх сябе.

## ЗДАБЫТКІ ВЕКУ АСВЕТЫ

"Рака Сар'янка (або Сарыя) атрымлівае свой пачатак з возера Біжы; напрамак мае на поўдзень; праз 75 вёрст упадае ля фальварка Пакаёўцы ў раку Дзвіну. Рака Сар'янка вельмі хут-



кая; глыбіня яе ў звычайную пару ад 3 да 8 футаў (...) Да вёскі Грыева ідзе балотнымі лугавінамі, якія вясной затапляюцца; ад гэтай вёскі цячэ ў невялікіх берагах надзвычай звіліста. Рака гэтая цячэ па адкрытай мясцовасці; грунт берагоў супескаваты", -- гэтыя нататкі пакінуў у сваім дарожным дзённіку паўтара стагоддзя таму назад генерал-маёр расійскай арміі Міхаіл Без-Карніловіч. У абавязкі кіраўніка тапаграфічнай экспедыцыі ў Віцебскую губерню Расійскай імперыі не ўваходзіла мастацкае апісанне і захапленне паэтычнымі краявідамі Прыдзвінскага краю. Служба ёсць служба, і калі яна вымагае мовы канкрэтных лічбаў і сухіх апісанняў, то даводзіцца падпарадкавацца яе правілам. Нягледзячы на свой вайсковы стан, Міхаіл Восіпавіч быў добрым знаўцам беларускага краю, аднак гістарычнага нарыса пра мясціны, што раскінуліся абапал маляўнічых берагоў Сар'янкі, нам не пакінуў. Таму звесткі гэтыя нам давядзецца шукаць іншым шляхам, звярнуўшыся найперш да бібліяграфічных крыніц пераважна польскага паходжання.



"Геаграфічны слоўнік" першым распавядае нам аб тым, што найбольш ранніяя звесткі пра Сар'ю адносяцца да XVI стагоддзя -- часу, калі маёнтак быў спадчынным уладаннем слыннага роду князёў Сапегаў. У 1506 годзе Сар'ю набыў надворны літоўскі маршалак Іван Сапега. Праз дзвесце гадоў лёс гэтай маёмасці Сапегаў крута змяніўся: у 1710 годзе Аляксандр Сапега аддаў Сар'ю (разам з Ідолтай) у заклад смаленскаму падстолію Мікалаю Александровічу, а яшчэ праз тры гады Сар'я (разам з Росіцай) трапіла ў заклад за 5 500 талераў бітых да мазырскага стольніка Якуба Бянета і яго жонкі Алены з Кімбараў. У хуткім часе маёнтак упадабаў брэсцкі ваявода Мікалай Лапацінскі, які ў 1742 годзе спачатку сплаціў залог Яну і Розе з Корсакаў Бянетам, а ў 1753 годзе ўвогуле выкупіў Сар'ю ў Аляксандра Сапегі. З таго часу сар'янскія ўладанні трывала ўвайшлі ў склад фамільных набыткаў роду Лапацінскіх.

Шляхціцы Лапацінскія здаўна пячаталіся гербам Люб[illegible]ыводзіліся, паводле традыцыі, з Ла[illegible]на, размешчанага ў Цеханоўскай зямлі. Багдан з Лапаціна атрымаў ад мсціслаўскіх княжатаў вялікія зямельныя ўладанні ў Мсціслаўскім ваяводстве, дзе яго сын Юзаф заснаваў но[illegible] маёнтак Лапацін, які на доўгі час ст[illegible]лоўным спадчынным уладаннем ро[illegible].

Паколькі гісторыя сар'янскіх уладанняў Лапацінскіх пачынаецца з асобы брэсцкага ваяводы Мікалая Тадэвуша (1715--1778), варта было б, напэўна, паспрабаваць больш дэталёва акрэсліць постаць гэтага вядомага ў свой час палітычнага дзеяча і буйнога магната.

Нараджэннем сваім 20 траўня 1715 года Мікалай Лапацінскі быў абавязаны мсціслаўскаму мастаўнічаму (службовай асобе, чыім дбаннем у ваяводстве ў належным стане павінны былі падтрымлівацца масты) Лявону Лапацінскаму (1663--1732) і яго жонцы Рэгіне са Свянціцкіх. Заможнасць Мікалая Лапацінскага, трэба меркаваць, выклікала зайздрасць не ў аднаго са зласліўцаў-сучаснікаў. Атрымаўшы ў спадчыну радавы маёнтак Лапацін у Мсціслаўскім ваяводстве, ён з цягам часу здолеў дадаць да яго вялізныя ўладанні ў Мсціслаўскім, Віцебскім, Полацкім, Інфлянцкім, Віленскім і Трокскім ваяводствах. Апроч таго, Мікалай Тадэвуш валодаў яшчэ шасцю асобнымі староствамі і меў палац у Вільні.

Як вядома, XVIII стагоддзе -- век Асветы -- спарадзіла ў грамадстве павагу да навукі і адукацыі і выпесціла цэлы шэраг выбітных асобаў, досведу якіх здзіўляліся сучаснікі і нашчадкі. Мікалай Лапацінскі быў, безумоўна, гадаванцам сваёй эпохі. Паводле сведчанняў архіўных крыніц, ён ведаў лацінскую, французскую, італьянскую і нямецкую мовы. Здольнасць і працавітасць дазволілі яму дасягнуць вялікіх вышынь у веданні права (перш за ўсё беларуска-літоўскага). Добры прамоўца і палітычны стратэг, ён быў пaслом на сеймы, займаў пасаду вялікага літоўскага пісара, а пазней здолеў дамагчыся сенатарскага крэсла брэсцкага ваяводы. Вядомы гісторык Отан Гедэман характарызаваў Мікалая Лапацінскага як чалавека вялікага розуму, арыстакрата і легітыміста, які ліставаўся з многімі дзяржаўнымі дзеячамі Рэчы Паспалітай, уключаючы і самога караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Гэты прадстаўнік роду Лапацінскіх звычайна вёў вялікую гульню на палітычнай арэне сваёй дзяржавы і таму, напэўна, не меў вялікага замілавання ад учынкаў правінцыйнай шляхты, якая іншым разам па-свойму разумела вольнасці шляхецкай рэспублікі і спосабы карыстання імі. Апісанне аднаго з прыкладаў адвольна зразуметага мсціслаўскімі шляхціцамі прынцыпа "liberum veto" на сейміку, што адбыўся ў Мсціслаўскім касцёле ў 1733 годзе, пакінуў нам родны брат Мікалая Лапацінскага літоўскі скарбовы пісар Ігнат Блажэй Станіслаў, аўтар "Дыярыуша жыцця Ігната Лапацінскага". Апошні дакумент -- каштоўны ўзор старадаўняй гістарычна-дакументальнай прозы -- быў выяўлены ў 1970-я гады ва універсітэцкай бібліятэцы г.Вроцлава вядомым знаўцам беларускай мінуўшчыны прафесарам Адамам Мальдзісам. Звернемся да цытаты, змешчанай у яго кнізе "Таямніц[illegible]эражытных сховішчаў": "Пан Лес[illegible]ніч, гродскі пісар з групоўкі Валовічаў, маючы ў руках старасвецкую сякерку тонкай работы, хацеў ёю ўрэзаць у лоб падстарасце Шпілеўскаму, але той уцёк, а Валовіч Станіслаў ускочыў на ст[illegible] (пастаўлены ў касцёле на час се[illegible] -- **А.М.**) і выхапіў шаблю. Затым не [illegible]ублялі часу абедзве партыі. Два браты Завістоўскія перакулілі стол на партыю Валовіча. Секліся амаль гадзіну, пакуль не выйшлі ксяндзы... Тады валовічаўская партыя ўцякла з касцёла і сеймікавала на вуліцы, ля карчмы... У той секаніне ў абедзвюх партыях моц было параненых. Найбольш дасталося Тапыгу, Дубягу і Козелу; двое ж з цяжкіх ран хутка памерлі".

Рэзідэнцыя брэсцкага ваяводы Мікалая Лапацінскага першапачаткова размяшчалася ў Сар'і. Аднак пазней ён вырашыў перанесці яе ў нованабыты ад нейкага пана Клячкоўскага маёнтак Чурылавічы, якому ў гонар свайго бацькі мсціслаўскага мастаўнічага Лявона Лапацінскага надаў новае гучнае найменне -- Лявонпаль. У 1768--1769 гадах Мікалай Лапацінскі ўзвёў у Лявонпалі хоць і невялікі, але прыгожы палац у стылі ракако. Побач з палацам быў разбіты французскі парк на тэрасах, якія паступова сыходзілі да ракі Заходняй Дзвіны.

Унутранае начынне лявонпальскага палаца цалкам адпавядала густу свайго ўладара. Варта заўважыць, што не толькі прадметы раскошы прыцягвалі да сябе ўвагу Мікалая Лапацінскага. У Лявонпалі брэсцкі ваявода пачаў збіраць уласную бібліятэку з кніг, выдадзеных у розныя часы ў розных краінах. Стаўся ён таксама і заснавальнікам фамільнага архіва Лапацінскіх, які карыстаецца шырокай вядомасцю сярод спецыялістаў да нашага часу. Найбольш старадаўнія дакументы з гэтага архіва паходзілі з XVI і XVII стагоддзяў -- часу, калі сар'янскія ўладанні належалі яшчэ роду Сапегаў. Быў тут і інвентар друйскіх і іказненскіх маёнткаў Сапегаў 1643 года з цікавым заканадаўчым актам, які называўся "Устава на звера". Па сутнасці, гэта быў сапраўдны паляўнічы статут, з дапамогай якога рэгламентаваліся розныя бакі гэтага важнага для свайго часу промыслу, што адначасна адыгрываў ролю і шляхецкай забавы. Азначаны дакумент мае і яшчэ адну адметную якасць -- своеасаблівай інфармацыйнай крыніцы пра тагачасны жывёльны свет Прыдзвіння. Аказваецца, у XVII стагоддзі ў рэках у "маёнтку Сарскім" вадзіліся такія надзвычай рэдкія сёння і каштоўныя рыбы, як ласосі.

Разам са старажытнымі дакументамі Мікалай Лапацінскі збіраў у сваім лявонпальскім архіве і сучасныя яму матэрыялы: юрыдычныя акты, паперы эканамічнага характару, а таксама немалую ўласную карэспандэнцыю. Брэсцкі ваявода падтрымліваў асабісты кантакт і дасылаў лісты вядомаму рэфарматару адукацыі ксяндзу-піяру Станіславу Канарскаму, славутаму географу, гісторыку і палітыку Каралю Вырвічу, знакамітаму навукоўцу-піяру Мацею Догелю, выдатнаму літаратару, перакладчыку і энцыклапедысту Ігнату Красіцкаму ды іншым асобам. Адна са звычак Мікалая Лапацінскага вымагае асаблівай ухвалы з боку нашчадкаў. Заключалася яна ў тым, што брэсцкі ваявода амаль заўсёды пакідаў у сваім архіве копіі адпісаных ім самім лістоў, што з цягам часу ператварыла яго эпістальярны збор у надзвычай рэдкую і цікавую крыніцу па гісторыі краю. Як трапна заўважыў Отан Гедэман, упарта седзячы ў сваім "згубленым паміж бароў і багнаў Лявонпалі", Мікалай Лапацінскі праз лісты і мемуарныя запісы 1769--1771 гадоў, бадай што, адзіны пакінуў нам звесткі пра дзейнасць барскіх канфедэратаў на абшарах сучаснай Браслаўшчыны і Міёршчыны.

Сваё жыццё Мікалай Лапацінскі скончыў 4 студзеня 1778 года ў Лявонпалі. Цела яго пахавалі ў Вільні ў манахаў трынітарскага ордэна, кляштар якіх размяшчаўся на прадмесці Антокаль. Варта адзначыць, што журботны абрад пахавання з належнымі нябожчыку гонарам і пашанай па праву мог быць праведзены не толькі ў віленскіх трынітараў, але і ў якім-небудзь іншым храме. На працягу свайго жыцця Мікалай Лапацінскі неаднойчы выступаў шчодрым фундатарам святыняў, прычым ахвяраваў грошы не толькі на каталіцкія касцёлы, але і на уніяцкія цэрквы. У тэстаменце 1760 года ён адпісаў на розныя касцёлы 28 000 польскіх злотых і апроч таго выдаткаваў асобную суму на цэрквы. У 1777 годзе брэсцкі ваявода склаў дадатковы тэстамент, паводле якога 25 000 злотых ахвяраваў на віленскую катэдру і 1 000 талераў -- на касцёл у Маляцічах.



**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: брэсцкі ваявода Мікалай Тадэвуш ЛАПАЦІНСКІ; мсціслаўскі стараста Ян Нікадзім ЛАПАЦІНСКІ; Троіцкая (былая уніяцкая) царква ў Лявонпалі. Сучасны стан.**

**(Працяг будзе).**

Анатоль КІРВЕЛЬ

# СПУСЦЕЛЫЯ ГНЁЗДЫ

## (ПЫТАННІ БЕЗ АДКАЗАЎ)

*"Туга будзе вечнай", -- за хвіліну да смерці запэўніў Вінцэнт ван Гог.*

* * *

Бяздонне -- цемень.
І калі, спатыкнуўшыся, мы
падаем у яго -- спазнаем
часцінку Цемры.
Ці варта так часта падаць,
каб спазнаць яшчэ штосьці!
А як не хопіць сілы падняцца!

* * *

Справе, якую ты робіш,
трэба аддаваць душу.
Чыю!

* * *

Што ёсць Бог!
Што ёсць жыццё!
Хто мы -- вылюдкі
ці недаробкі!

* * *

Куды мы пойдзем!
Туды, куды нас павядуць,
альбо туды, куды
мы самі ўшчэмімся --
з вялікага розуму!

* * *

Угнуць галаву ў плечы, ці не
шкадаваць яе, добра ведаючы,
на што ідзеш!
Або схітрыць
і проста дачакацца,
калі ўсё само
прыйдзе табе ў рукі!

* * *

Лаюць -- палітыкаў.
Не лаюць -- адно геніяў.
Тыя, хто пасярод іх --
геніі ці палітыкі!

* * *

Пісаць і піць гарэлку --
занятак амаль
што Боскі: на тое і
на другое
патрэбна ўмельства.
Ды без самаахвярнасці --
ні пісьменніка добрага,
ні пітка.
Бач ты: сродкі -- аднолькавыя,
а вынік!

* * *

Хіба спыніцца жыццё --
без нас!
Спыніцца -- замарудзіцца --
рост:
зерне, якому радзіць,
ператорыцца ў гной.
Хіба мы, не нарадзіўшы
нічога, --
толькі гной!

* * *

Прыгажосць -- сродак
ці прамернасць!
Або сляпы ліхтар,
які свеціць сляпому
нават уначы!

* * *

Колькі адпушчана мне!
Колькі адпушчана табе!
Колькі ўсім нам!
Калі ж мы спынімся --
задаваць сабе
гэтыя пытанні!

* * *

Пытанні, на якія
няма адказу, --
што гнёзды без птушак:
ці то каршун вынішчыў,
ці то сяброўка не стрэлася,
каб сямейку зладзіць!

* * *

Любіць --
не любіць!
Кахаць --
не кахаць!
Жыць альбо паміраць!
Ці проста верыць,
што кветка,
якую ты пасадзіў, -- твая!

* * *

Хто ўсміхаецца першым:
шчаслівы! разумны!
прадбачлівы!
Альбо той,
хто часцей аддае --
ніяк у яго не менее!

* * *

Адчай выратоўвае слабага.
Упартасць -- моцнага.
А калі ты яшчэ не спазнаў,
што такое адчай,
ты -- моцны!

* * *

Мы не адкрываем
нічога новага.
Мы толькі называем,
як ёсць цяпер.
Хіба гэта працей,
чым адкрываць новае!

* * *

Пругкія грудзі,
запал маладосці --
усё гэта ператворыцца
некалі ў тлен.
Але пакуль не ператворыцца --
камусьці будзе
гэтага не хапаць.
І ён будзе маліцца,
каб так заўсёды было.
Хіба ж мы -- іконы!

* * *

З Богам трэба дзяліцца.
Найперш -- радасцю
ды ўдачай.
ба Васпану чаго не хапае!
е ж і ад цябе не ўбудзе.
Спрабаваў!

* * *

Чалавек павінен быць
добрым.
вінен быць чулым
і спагадлівым.
Хіба ён вінаваты,
што так многа вінен!

* * *

Сцеражыся сяброў:
яны спакушаюцца на тое,
без чаго нельга жыць --
без даверу.
А як скарыстаеш увесь --
то паміраць!

* * *

Пасядзець з алкашом --
паслухаць
гісторыю, якую
без слёз не раскажаш.
Але ці будзеш слухаць яе
са слязьмі на вачах!

* * *

Стварыць цемру
вакол сябе --
працай за ўсё.
Разагнаць яе --
Сізіфава праца.
Няўжо яна дарэмная!

* * *

Лісток восеньскі,
што лёг неўспадзеў на плячо --
ці не згадка лёсу твайго!
Падымі, прачытай --
літары, мусябыць, не чужыя!

* * *

Бацькаўшчына -- хіба
гэта не тое,
куды мы вяртаемся,
як птушкі з выраю!
А гнёзды -- цэлыя!

* * *

Нашто нам прыгожае
пісьменства!
Ці памагае яно жыць!
Ані!
Дык мо не пісаць!
Але ж усе мы --
як сырая гліна,
а пісьменства --
ганчар,
што душы нашыя лепіць.

Адно не тых, хто цяпер жыве --
не дарослых:
яны папераж злепленыя --
не намі, -- а тых,
хто потым жыць будзе --
дзетак нашых.
Гадоў праз сорак і
адгукнецца слоўца,
ціхутка сёння прамоўленае.
Пісацьме!

* * *

Здабытак -- ужытак.
Ужытак -- звычка.
Звычка -- асоба.
Асоба -- здабытак!

* * *

Прыгажосць уратуе свет.
А што яго знішчыць!
Простасць! прымітыў!
Усё геніяльнае -- простае,
гэта -- аксіёма!

* * *

Квадрат -- непакоіць.
Кола -- суцішае.
Тое, што бачыць вока -- аж да
гарызонта -- палова кола, палова
суцяшэння. А дзе другая!
Ці не ў царкве, дзе
няма квадратаў,
і дзе над табой --
другія палавінкі колаў --
каменныя аркі!
Дык што лечыць душу:
вера ці вока!

* * *

Пытанні без адказаў --
гнёзды,
куды прыляця тушкі.
Калі!

* * *

Што меней важыць:
смутак або радасць!
Меней важ тое,
ш ягчэй забываецца.
А калі ты забыўся, дзе рос!

* * *

Шанаваць сябе
ці шкадаваць сябе!
Шкадуючы -- шануй!
Шануючы -- не даруй!

* * *

Хіба плачуць з гора!
Слязьмі -- ачышчаюцца.
А калі чысціня -- праз пакуты!
Гэта -- радасць ці лёс!

* * *

Шчаслівы ўсміхацца --
доўжыць свой век.
Доўжыць век --
доўжыць пакуты!

* * *

Варта закрэсліць сябе
адзін раз --
і ўсе вінаватыя,
што ты такі нешчаслівы.
Хто прымушаў цябе
браць у рукі аловак!

* * *

Стварыць Пекла --
у сваёй хаце --
здольны не кожны.
Стварыць Рай --
тым больш.
Стварыць тое і другое разам і
парадавацца, што стварыў адзінае,
на што здольны --
стварыў Жыццё!

* * *

Прыгажосць -- плата.
А як няма чым плаціць!

* * *

Сціпласць -- сястра таленту.
А калі ён -- усеабдымны!

* * *

Адпавядаць узросту --
адпавядаць існіне.
Існіна -- гэта вынік ці
адпаведнасць!



У Санкт-Пецярбургу існуе вялікая суполка нашых землякоў, у якую ўваходзяць шмат творчых людзей — навукоўцаў, пісьменнікаў. Анатоль КІРВЕЛЬ, вершы якога прапануем нашым чытачам, нядаўна прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. На старонках "Голасу Радзімы" ўжо неаднойчы друкаваліся яго артыкулы.

* * *

Зірні ўглыб -- убачыш мяжу.
Зірні ўгору --
не знойдзеш межаў.
Зірні ў сябе --
і не палохайся: там
усё наадварот: глыбіня
не мае межаў,
а ты -- не анёл.
А калі ў цябе прарастаюць крылы!

* * *

Вароны жывуць і ў горадзе,
і ў полі.
У горадзе яны называюцца
гарадскімі воронамі,
у полі -- вясковымі.
Тыя, каго так называюць, --
ці не белыя
вароны -- самыя рэдкія
і самыя ранімыя птушкі!

* * *

Лістота восеньская --
валасы каханай --
сховішча для пяшчоты
і трошкі сораму:
табе -- недарэку! --
цэлае бярэмя шчасця!
Ці не грэх: гэтулькі -- ды аднаму!

* * *

Кляновы ліст -- як
птушка забітая --
распасцёршы крылы --
нячутна скрозь голле --
ажно сэрца заміраe --
зараз ціўкне ад болю.

* * *

Ходзяць людзі --
прамаўляюць сваё.
І раптам -- нібыта знарок --
кажуць тое,
што ты і сам
хацеў бы сказаць.
І словы тыя --
з чыстага золата.
А яны ім -- як смеццем.
Як здарылася, што не ты, а яны!
А мо гэта ты перасяліўся
ў іхняе цела,
добра ведаючы, што са смеццем --
і расставацца
не шкода!
А з золатам!

* * *

Уладу любяць усе.
Але не ўсе ведаюць,
што гэта такое.
Улада Творцы -- над тым, што ён
ствараe, -- самая каштоўная, самая
недасягальная для тых, хто мае
проста ўладу.
Ці не таму Уладары --
так не любяць Творцаў!

* * *

Пытанні, на якія не трэба даваць
адказу, -- птушкі.
Птушкі любяць волю.
І толькі тады ладзяць гнёзды.

*Верасень -- кастрычнік, 1995.*

Санкт-Пецярбург.

*ВЫСТАВА СУПОЛКІ "ПАГОНЯ"*



# АДНОСІНЫ ДА ГІСТОРЫІ І СЁННЯШНІХ ПАДЗЕЙ – МАСТАКОЎСКІМІ СРОДКАМІ

Згодна з праграмай святкавання 78-х угодкаў з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, прайшла выстава, прысвечаная гэтай падзеі. 25 сакавіка ў Палацы мастацтва шосты раз суполка "Пагоня" Саюза мастакоў Беларусі наладзіла вернісаж.

Мастакі ўрачыста аформілі ўваход у залу, дзе выстаўлены іх творы. Над пляцоўкай каля лесвічнага марша, які падзяляе залу ў цэнтры на дзве часткі, размясціўся бел-чырвона-белы сцяг (Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь яго пакуль не адмяніў і новы не зацвердзіў) у выглядзе дзевяці шматметровых стужак аднолькавай шырыні і бел-чырвона-белага колераў. Яны нібы працяг сцяга, што размешчаны як пано на своеасаблівай стэле, унізе -- мемарыяльная дошка, прысвечаная 75-м угодкам абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Яна выканана скульптарам Алесем Шатэрнікам у 1993 годзе і выстаўляецца ўжо чацвёрты раз, таму што ўлады не даюць дазволу замацаваць яе на будынку ў Мінску, дзе ўпершыню была абвешчана наша незалежнасць. Адкрыццё выставы гэтым разам было вельмі мнагалюдным. Жадаючым убачыць імпрэзу не хапала месца ў зале, людзі стаялі на лесвіцы.

На адкрыцці выставы старшыня Саюза мастакоў Беларусі Генадзь Буралкін адзначыў, што яму прыемна святкаваць угодкі БНР у гэтай зале на працягу апошніх год адкрыццём выставы суполкі "Пагоня".

Васіль Быкаў прыгадаў, што ніводзін народ не загінуў ад недахопу харчоў, а ад страты духоўнасці загінула ўжо шмат цывілізацый. Ён звярнуў увагу на тое, што сучаснае мастацтва, як і ўсё грамадства, перажывае крызіс. Між тым мастакі суполкі "Пагоня" знаходзяць у сабе сілы і талент, каб несці людзям высокую духоўнасць і развіваць нацыянальнае мастацтва, яны заўжды прысвячаюць шмат твораў розным старонкам гісторыі Беларусі, цікаўнасць да якой у мінчан значна ўзрасла за апошнія гады. Удалыя па кампазіцыі і зместу творы выставіў Яўген Кулік. У трыпціху ("Ефрасіння Полацкая". "Дойлід Іаан". "Майстра Богша"), каля якога заўсёды тоўпяцца гледачы, ён ушанаваў памяць нашых самых старажытных дзеячаў культуры часоў Полацкага княства.

Алесь Марачкін выканаў у стрыманай вохрыстай танальнасці "Партрэт вялікага канцлера Льва Сапегі", надаўшы тым самым яму нібы флёр старажытнасці.

Другі год стварае серыю партрэтаў гістарычных дзеячаў Беларусі Тамара Васюк. Сёлета яна выставіла своеасаблівы партрэтны трыпціх, прысвечаны жанчынам, пад назвай "Ефрасіння", "Рагнеда", "Марыя", якія выкананы ў тэхніцы паліўнай керамікі. Яны вабяць дакладнасцю і выразнасцю лепкі твараў і дробных атрыбутаў, што вельмі складана дасягнуць у такім матэрыяле.



Уражвае майстэрства і партрэтная дакладнасць у партрэце Тадэвуша Касцюшкі, які выкананы ў тэхніцы габелена Алёнай і Міколам Колас.

Ужо некалькі год плённа працуе ў галіне тэматычнага партрэта Юры Піскун, знаходзячы кожны раз арыгінальны і своеасаблівы псіхалагічны код для характарыстыкі сваёй мадэлі. Вось і сёлета ён выставіў чатыры жывапісныя творы пад назвамі "Госці" (аўтапартрэт у касцюме XVI стагоддзя), "Старасвецкія мелодыі" (партрэты дачок у старасвецкіх касцюмах і са старажытнымі музычнымі інструментамі ў руках), "Зімовы сон" і "Той гук адзавецца".

Працягвае ствараць галерэю партрэтаў нашых прашчураў і Леў Талбузін у медальернай пластыцы. Ён прадставіў медалі "А.Адамовіч", "Ф.Багушэвіч". Работы вылучаюцца ювелірнай дакладнасцю нізкарэльефнай пластыкі, характэрнай для гэтага мастацтва.

Цікавую гістарычную інфармацыю можна атрымаць, разглядаючы арыгінальную кампазіцыю пад назвай "Радавод". Выканана яна Зміцерам Герасімовічам тэхнікай камп'ютэрнай графікі па радаводу, складзенаму Анатолем Белым, згодна з навуковым абгрунтаваннем Міколы Ермаловіча.

Памяць змагароў за Айчыну ўшанаваў і адначасова раскрыў змест старажытнага герба "Пагоня" Г.Данчанка ў каляровым рысунку "Пагоня". У ім адлюстраваны імклівы рух чарады ўзброеных коннікаў са шчытамі і дзідамі. Размешчаны пад імі выразны надпіс "Старажытнай крывіцкай пагоні не разбіць, не спыніць, не стрымаць!" арганічна ўвязаны ў кампазіцыю і з'яўляецца яе падмуркам.

**НА ЗДЫМКАХ: на выставе "Адраджэнне"; А.КОЛАС, М.КОЛАС. Габелен "Касцюшка".**

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

**НЕЗАЛЕЖНАЕ РАССЛЕДАВАННЕ**

# РАСКАЖАМ ПРА РАМУАЛЬДА ЗЯМКЕВІЧА

Гэты без перабольшання класічны партрэт побач з аналагічным партрэтам Скарыны сёння для нас -- нібы вобраз духоўна багатай Беларусі ў адзін з высокіх перыядаў яе гісторыі. Паведамленні ў газетах і часопісах пад рубрыкай "З архіву Р.Зямкевіча" заўсёды жыва цікавілі сучаснікаў, як цікавяць сёння і даследчыкаў. Напрыклад, у першым нумары часопіса "Варта" за 1918 год надрукаваны гісторыка-краязнаўчы артыкул Зямкевіча (пад псеўданімам Р.Суніца) "Няміга і Менск" і цэлая падборка каштоўных матэрыялаў пад рубрыкай "Старая беларуская пісьменнасць: З архіву Рамуальда Зямкевіча": верш Багушэвіча "Яснавяльможнай пані Арэшчыхе" (1891), верш Сыракомлі "Добрыя весці" (у часопісе называлася дата: 1848), "Малітва" (1878) маловядомага паэта Язэпа Жукоўскага і, нарэшце, надзвычай рэдкае для сярэдзіны XIX стагоддзя беларускае апавяданне А.Плуга "Кручаная баба" (1849). І пра ўсё гэта -- з цікавымі арыгінальнымі каментарыямі, заўвагамі, дадатковымі звесткамі.

Артыкулам "Тарас Шаўчэнка і беларусы" (1911) Зямкевіч унёс уклад у вывучэнне беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей, у станаўленне беларускага параўнальнага літаратуразнаўства.

Рознабаковую дзейнасць, інтарэсы, стасункі, штодзённыя навуковыя і чалавечыя клопаты Зямкевіча добра характарызуюць яго ўцалелыя пісьмы 20--30-х гадоў. Усё-такі, што ні кажы, а лісты -- жывы голас, нібы застылая фанаграма гісторыі:

**16.IY.1927 -- Антону Луцкевічу:**

"Сэнатар Уласаў запрасіў мяне да супрацоўніцтва ў "Родных гонях". Вельмі ахвотна згадзіўся я на гэта, бо такі тып часопісі надта ж ужо патрэбны.

Да рэдакцыі я паслаў стаццю: "Аб беларускай народнай эстэтыцы", каторую пэўна ў вас ужо атрымалі...

Затым вельмі Вас прасіць буду, ... адшукалі маю стаццю аб Янцы (так у арыгінале. -- **Г.К.**) Лучыне (Неслухоўскім) і яго вершу аб украінскім тэатры. Гэтую стаццю я даў Вам у 1923 годзе для зборніка "Заходняя Белару... Цяпер я маюся яе перарабіць, дад... рывак-абломак нейкай беларускай камедыі Неслухоўскага і пусціць у "Родных гонях". Стаццю гэтую, калі ласка, перадайце Уласаву, дык ён мне прывязе. Хацеў быць у Вільні ў Вербную нядзелю, пагутарыць з Вамі, але, на жаль, маё вельмі дрэннае матэрыяльнае палажэнне не дало мне магчымасці прыехаць.

У леташнім годзе ("летась" Зямкевіч разумеў як "сёлета". -- **Г.К**) прыпадае гадаўшчына Чачота -- 80 гадоў ад яго смерці ды 120 ад яго нараджэння (тады лічылася, што Чачот нарадзіўся ў 1797 г.; па новых звестках -- у 1796 г. -- **Г.К.**). Сяджу і працую над манаграфіяй аб ім, дам нязнаныя, недрукаваныя яго творы, з паміж каторых найбольш цікава яго п'еса па-беларуску для тэатра, напісаная ў чэсць Міцкевіча.

На ўгодкі смерці Багдановіча таксама дам нізку яго вершаў.

Ах, каб я меў больш часу! Колькі я бы мог даць цікавых рэчы і сам, і пакіраваўшы іншых у апрацаваннях розных манаграфіяў! Але што ж рабіць, на руках кайданы!"

**21.II.1930:**

"Першая пастаноўка "Сялянкі" Марцінкевіча адбылася толькі ў 1855 годзе ў Менску, бо раней гэтакі "рэвалюцыйны" твор (як ні смешна, аднак гэта факт) пры мікалаеўскім царскім рэжыме пастаўлены публічна быць не мог! Праіграная Крымская вайна прычынілася да памягчэнняў у тагачаснай палітыцы ўраду! Значыцца, летась (сёлета. -- **Г.К.**) 75-лецце гэтага нацыянальнага здарэння".

Тут -- зазначым -- Зямкевіч пры ўсіх сваіх велізарных ведах памыляўся: першая пастаноўка "Сялянкі" ("Ідыліі") адбылася -- гэта дакладна вядома -- 9 лютага 1852 года. Але вельмі важна, што ўжо тады Зямкевіч ставіў пытанне пра новую пастаноўку гэтай ранняй п'есы Дуніна-Марцінкевіча (здзейснена -- і вельмі ўдала -- толькі ў нашы дні рэжысёрам М.Пінігіным у Купалаўскім тэатры):

"Паставіць "Сялянку" на сцэне варта было б, аднак тэкст польскі павінен быць пераложаны на беларускую мову. Наскольки памятаю, пераклад гэтакі рабіў для нябожчыка Бурбіса Я.Купала. Гэта трэба было б адшукаць".

І зноў успомніў сваю даўнюю калекцыянерскую крыўду -- няўдалае "паляванне" за афішай першай пастаноўкі "Сялянкі" (адзіным уцалелым экземплярам яе валодаў паэт А.Паўловіч), суперніцтва ў гэтых адносінах з І.Луцкевічам:

"З нейкай заметкі, здаецца ў месячніку "Полымя", я даведаўся, што А.Паўловіч перадаў у архіў Інбелкульту афішу "Сялянкі" з 1855 (1852. -- **Г.К.**) году. Гэтую афішку напрасна стараўся сьв. пам. Іван выкупіць у Паўловіча. І я сам у гадах 1915 -- 1917 атакаваў Паўловіча ў Менску, без рэзультата. Ён мне казаў, што калі б далі яму 200 рублёў, дык можа бы аддаў Івану, а дзеля таго што дагаварыцца з Іванам не мог, ён перадаў мне, што гэту афішку купіў у яго польскі кампазітар Henryk Opienski, бытцам бы за 100 рублёў. Я звяртаўся да Опенскага, які мне заявіў, што нічога аб гэтым не ведае і з Паўловічам не знаёмы. Мне фатаграфія гэтае афішкі патрэбна для маей працы "Нарыс гісторыі беларускае музыкі" і дзеля таго я гэтак яе шукаў".

**17.V.1930:**

"У мяне нічога новага, апрача кніжак па беларусазнаўству, якія я пастаянна дабываю.

На 1 чэрвеня сабіраюся прыехаць, магчыма, што прачытаю лекцыю на тэму: Пахвала князю Вітаўту -- беларуская памятка XIV сталецця. Гэта летапісна-літаратурны твор сучаснага (тагачаснага. -- **Г.К.**) невядомага аўтара. Пакуль што шукаю гэтага матэрыялу, бо ўсё ў мяне схавана ў папках".

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 12—15.**



**"Душой я вольны чалавек" -- так называўся літаратурна-мастацкі вечар, які прайшоў у Мінску ў музеі Янкі Купалы. Яго тэма -- адраджэнне і вясна ў лірыцы Купалы. У праграме вечара выступілі вядомыя беларускія пісьменнікі, вершы Купалы прачытаў акцёр Віктар Манаеў. На вечары выступіла супрацоўнік Дома-музея Янкі Купалы Антаніна ХАТЭНКА.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

